*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 48(382) 9 СНЕЖНЯ 1998 г.

## Чатыры тыдні ў лістападзе

*Прыватны агляд беларускага друку*

**Нямытыя шыбы і вольны свет**
**(вакол артыкула А.Дынько у "НН" 26.10.98)**
**"Спадчына" № 5 98**

Месяц таму я крытычна выказаўся накont "Нашай Нівы". Вызначаючы сёння артукул "Эрэкцыя культуры", як інфармацыйную падзею месяца, я не адмаўляюся ад тых словаў: сп.Дынько выказвае падобныя погляды на трохі іншым матэр'яле, больш творча і зацята.

Тое, што я стрымана пазначыў як разрэджанасць думкі, ён называе дакладней:

"Агульнае ўбоства беларускай рэчаіснасці, хоць на выгляд здаецца непазбежным, паспрабуй дзе ёсць цесна звязаным з убоствам думкі і абумоўленым неахвотай глядзець і слухаць". Гэтае ўбоства, на думку аўтара, ёсць добраахвотнай пазіцыяй, якую можна і трэба адкінуць, што ён і зрабіў, выказаўшыся на тэмы, якія для беларускага друку дзесяцігоддзямі былі "табу".

Не трэба думаць, што маецца на ўвазе сэксуальны аспект тэмы. У беларускім друку табу накладзена не на сэкс ( і не на распусту), а на ... існаванне навакольнага свету. На знакамітае пытанне "а за Воршаю людзі ёсць?" беларуская пішучая брація цвёрда і насуперак праўдзе шмат год адказвае: "Не!" (Дадамо, што 99% пры гэтым змяшчаюць сябе ад гэтае "Воршы" крыху на ўсход, адсякаючы як "не наша" большую частку беларускага).

Узгадайце, колькі на Беларусі прадаецца выданняў замежных краін (ня лічачы Расеі), колькі робіцца перакладаў, колькі месца займаюць у СМІ тэмы замежнага жыцця, і вы зразумееце, чаму А.Дынько называе беларускія ўяўленні пра навакольны свет "нямытымі шыбамі".

Дадамо тут ад сябе, што грэх правінцыяльнага ізаляцтынізму аднолькава ўласцівы афіцыёзу і незалежнаму друку, "Нашай Ніве" гэтак жа, як "Звяздзе" і "ЛіМу". Просты прыклад: ва ўсіх згаданых выданнях ахвотна друкуюць зацемкі, вытрымкі з запісных кніжак такіх розных пісьменнікаў як Я.Брыль, Вяч.Адамчык, А.Глебус. Жанр, да якога нават класік мусіць ставіцца з асцярогаю, стаўся здабыткам шырокіх пісьменніцкіх масаў. Такое магчыма толькі пры "развітым ізаляцыянізме". Але за "НН" няма жалезабетоннага маналіту дзяржавы, і ейны бар'ер чалавек часам можа прабіць. Што і зрабіў (у чарговы раз) А.Дынько. Гэта яшчэ не пралом, калі ў "Вострай браме" вядомы паэт можа прызнацца, што не пісаў вершаў, бо не было для таго ўмоваў быту. Бар'ер трымаецца, але ёсць і прарыў да шчырасці, дзе спалучаецца шчырае захапленне сваёй Радзімай, сваім народам і шчырае прызнанне хібаў гэтай Радзімы і заганаў народу. Такое спалучэнне можа быць выйсцёвым пунктам для стварэння новай беларушчыны, пра якую думае ўсё болей людзей (узгадайма хаця б дыскусію пра лёс беларускай савецкай літаратуры напачатку года).

Дарэчы будзе згадаць, што праблема мае чыста практычны бок. Ня толькі ўлада мусіць сёння шукаць агульнанацыянальную ідэалогію (пра што шмат пісалася ў лістападзе). Ідэалогія патрэбная ўсім — нават тым, хто не разумее, што гэта такое. Дык вось, па глыбокім (не толькі маім) перакананні, "бруднашыбная" беларушчына не ў стане стаць падмуркам хаця нейкае ідэалогіі, адно толькі дапаможным элементам светапогляду. Нельга зварыць суп з тапарышча. Даводзіцца шмат чаго дадаваць для смаку — а ўсе тыя "драбніцы" замежнага паходжання, і трэба шчэ навучыцца іх на сваім падворку.

У артыкуле сп.Дынько "новае мысленне" пададзена дэманстратыўна, на падкрэслена замежным матэр'яле. Рэдакцыя "Спадчыны", на мой погляд робіць тое самае, адкрываючы для чытачоў тых самых "людзей за Воршаю" — непадобных на мужыка ў лапцях і ўсё ж — беларусаў: паўстанцаў, кніжнікаў, людзей мастацва, каталіцкіх і праваслаўных святароў, палітыкаў. Новы нумар часопіса вызначаецца шырокім кругаглядам, у ім болей дыялагічнасці, публіцыстычнасці, інтэлектуальнай інтрыгі. Гэта не нямытыя шыбы, хутчэй вітраж сабору, у якім майстра гісторыі ўладкаваў свае ўяўленні пра гармонію Сусвету.

Але праз вітраж няшмат угледзім у навакольным свеце: усё ўзнёслае і прыгожае. Каб гэтак жа пісалася пра справы сённяшнія, будзённыя! Тут, натуральна, задача для іншага выдання.

Д.Ж.

## Увага

Рыхтуецца да выдання зборнік з папярэдняю назваю "З хронікі знішчэння беларускай мовы". У зборніку паміж іншымі будуць мець месца раздзелы: "Факты" і "Нашае змаганне". Укладальнікі звяртаюцца да чытачоў "Нашага слова"з просьбай тэрмінова на адрас газеты "Наша слова" дасылаць інфармацыю пра факты дыскрымінацыі беларускай мовы і пра меры, якія прымаліся мясцовымі структурамі ТБМ і іншых нацыянальных арганізацый у абарону мовы. Укладальнікі маюць дастаткова аналітычных матэрыялаў, але не ўсё змаглі даведацца пра стан спраў у аблацях і раёнах. Вашая інфармацыя зробіць кнігу больш важкай і грунтоўнай

## Весткі з Летувы

26 лістапада ў будынку Нацыянальнай бібліятэкі Летувы імя Матвідаса, побач з летувіскім соймам адбылася прэсканферэнцыя на тэму "Парушэнні правоў чалавека на Беларусі". З беларускага боку ў ёй удзельнічалі: старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі XIII склікання Сямён Шарэцкі, дэпутаты Мечыслаў Грыб і Уладзімір Нісцюк, намеснік кіраўніка БНФ Сяргей Папкоў, паэт Славамір Адамовіч, грамадскі дырэктар БХК Алег Тулак і прафесар Анатоль Грыцкевіч аўтар гэтых радкоў — ад ТБМ і БСДГ. З літоўскага боку прысутнічалі дэпутаты літоўскага сойму, журналісты, прадстаўнікі Асацыяцыі Летувы па правах чалавека, розных культурніцкіх беларускіх суполак. Вёў канферэнцыю арганізатар гэтай імпрэзы, старшыня Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве Хведар Нюнька. Пасля таго, як прысутныя азнаёміліся з сітуацыяй на Беларусі, яны задалі шмат пытанняў. Сярод іх былі пытанні наконт існавання на Беларусі аўтакефальнай праваслаўнай беларускамоўнай царквы, аб мове набажэнстваў беларускіх касцёлаў і храмаў, аб сітуацыі з беларускамоўным школьніцтвам. Дэпутаты Сойма былі вельмі здзіўлены калі даведаліся, што ў незалежнай Беларусі няма ніводнай цалкам беларускамоўнай вышэйшай навучальнай установы, а на шматлікія мітынгі і пікеты якія ў гэтым годзе правяло ТБМ, міністэрства адукацыі Беларусі адказала, што не бачыць метазгоднасці ў адкрыцці Беларускага Нацыянальнага Універсітэта.

Сітуацыя ў Летуве цалкам іншая. Зараз у старажытнай Вільні існуе дзве польскія школы (4,5 -5 тыс. вучняў), каля пяці расейскіх школ і беларуская школа (каля 160 вучняў).

У педагагічным універсітэце існуе кафедра беларускай філалогіі , ёсць беларускамоўныя перадачы па радыё і тэлебачанню, Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве выпускае сваю газету "Рунь" накладам 1000 асобнікаў.

Вечарам 26 лістапада ў сядзібе ТБК у старым цэнтры Вільні адбылося ўрачыстае паседжанне прысвечанае чарговай гадавіне Слуцкага збройнага чыну. З цікавым гістарычным дакладам выступіў доктар гістарычных навук Анатоль Грыцкевіч. Прысутныя цікавіліся рознымі культурнымі і адраджэнцкімі справамі на Беларусі, адзначылі цікавыя публікацыі ў газеце "Наша слова".

Сярод іх была распаўсюджана некалькі дзесяткаў апошніх нумароў газеты. Вялікую цікавасць выклікаў першы васьміпалосны нумар "Нашага слова". Настаўніца беларускай мовы і літаратуры Леакадзія Мілаш ахвяравала на выданне і падпіску газеты ТБМ 200000 рублёў.

Пасля імпрэзы адбылiся сустрэчы з прадстаўніком рэдакцыі газеты "Рунь" сп.Паўлам Саўчанкам, якому было перададзены апошнія нумары нашай газеты і некалькі артыкулаў для "Руні" напісаных студэнтамі Беларускага ўніверсітэта Культуры.

Раніцай 27 лістапада адбылася чарговая сустрэча з журналістамі Летувы, якіх цікавіла эканамічная і палітычная сітуацыя на Беларусі. Яны не маглі паверыць, што ў Беларускіх крамах стаяць шматлікія чэргі за самым неабходным харчаваннем. У гадавіну чарговага прэзідэнцкага "рэферэндуму" можна дакладна сказаць, што без мовы няма ні толькі каўбасы, але і яек з маслам.

*Алег Трусаў.*

# Сёння 107 гадоў з дня нараджэння Максіма Багдановіча

## СПОВЕДЗЬ

Столькі пакут, слёз
і болю, і нерваў
у чаканні жаданага мігу.
Пасля смерці Паэта шэдэўрам
назавуць Яго кнігу.

Так ад веку было і так будзе,
ад калыскі да
на той свет перавозчыка.
Геніямі не бываюць
жывыя людзі,
Геній —
прызванне нябожчыка.

***Васіль Вітка, 1987***



*(Матэрыялы пра Максіма Багдановіча на 3-й і 4-й старонках)*

* * *

Сакратарят ТБМ падпісаў на газету "Наша слова" на 1 квартал 1999 года 34 бібліятэкі горада Асіповічы і Асіповіцкага раёна.

* * *

Станіслаў Шушкевіч падпісаўся на газету "Наша слова" на першае паўгоддзе 1999 года.

* * *

Сакратарыят ТБМ падпісаў на беларускамоўныя выданні клуб дэмакратычных ветэранаў Гародні

Сяргей Ёрш

# Вяртанне БНП

У кнізе прадстаўлены асобы і дакументы Беларускай Незалежніцкай Партыі. Кніга прысвечана гісторыі Беларускай Незалежніцкай Партыі, якая ў 40-х - пачатку 50-х вяла збройную барацьбу супраць савецкага рэжыму. Гэта першае на Беларусі манаграфічнае даследванне на гэтую тэму.




Каб атрымаць кнігу трэба 184000 руб. плюс 18 000 за паштовую перасылку пералічыць на наступны рахунак: БГФ "Наша Ніва" р/р 3015201930039 "Гарант" філія АКБ "Поиск" Менск, код 987.

Звяртацца можна і праз пошту:а/с 71, 220 123

## АХВЯРАВАННІ НА ТБМ

| | | |
|---|---|---|
| Раіса Жук-Грышкевіч | Канада | 100 дол. ЗША |
| Леакадзія Мілаш | Вільня | 200 000 руб |
| Леанід Віннік | Ліда | 150 000 руб |
| Алена Дзядова | Наваградак | 200 000 руб |

# Не гіне, а жыве і будзе жыць!

Мне заўжды не падабалася тое, што дзве вялікія справы — нацыянальнае адраджэнне і справу палітычнай барацьбы за ўладу спалучалі ў адно цэлае. Так, без палітычнай перамогі, справа нацыянальнага адраджэння будзе трымацца толькі на самаахвярнасці і самаадданасці групы людзей, прысвяціўшых свой час і свой лёс справе нацыянальнага адраджэння. Калі б да гэтай вялікай і святой справы, ды дапамогу дзяржавы, дапамогу ўлад, — то ніякіх сумненняў, што справа нацыянальнага адраджэння набыла б той імпульс, якога ўжо не згасіць. Але гэтага калі б, няма.

Амаль ужо два месяцы таму, мне патэлефанаваў мой намеснік, абураны тым, што беларускамоўны клас у якім навучаўся яго сын, зачынілі ўлады, нікога не запытаўшы і вырашыўшы за дзяцей і іх бацькоў на якой мове ім навучацца. Мой аднадумца запатрабаваў, каб гэта пытанне было вынесена на чарговае паседжанне выканкама Партыі Здаровага Сэнсу з тым каб партыя стала калектыўным сябрам "Таварыства беларускай мовы". Аднагалосна на выканкаме была прынята такая пастанова і думаю, што на маючым месцы хутка адбыцца з'ездзе, яе падтрымаюць і ўсе дэлегаты.

Да ПЗС, далучыліся і "Беларуская ліга правоў чалавека", якую ўзначальвае М.Макека. Прычым таксама аднагалосна ў кіруючым складзе.

І хоць яшчэ не ўсе фармальнасці выкананы, але і сам я, як асабісты сябар ТБМ. хачу падзяліцца з чытачамі паважанай мною газеты "Наша слова" сваімі думкамі па погляду на дзейнасць ТБМ. Так, хвала Богу, сёння яшчэ не ідзе размова аб знікненні беларускай мовы. Але сёння не знойдзецца ў Беларусі сумленнага чалавека, які б не ведаў, што мова беларусаў адчувае пэўную дыскрымінацыю.

Калі наша савецкая Беларусь атрымала так званую незалежнасць і для тых хто сапраўды ва ўладзе хацеў бы нацыянальнага адраджэння, адкрыліся нейкія новыя перспектывы, то якія маглі быць перашкоды? Кожны год хоць патрошкі, але рухайся наперад, адчыняй новыя класы, уводзь меры зацікаўленасці для вывучаючых беларускую мову, уводзь льготы для беларускамоўных выданняў, уводзь льготы для прадпрымальнікаў на рэкламу на беларускай мове, і не трэба адміністрацыйнага ўціску. Але гэта наша жаданне, а не жаданне ўсенароднаабраных улад, як прынята амаль ужо век назад у гэтай краіне, гэтыя жаданні не супадаюць. Не супадаюць на жаль і шляхі палітычнай барацьбы са шляхамі нацыянальнага адраджэння.

Нейкая частка нашага грамадства сапраўды верыць у тое, што справа нацыянальнага адраджэння павінна быць падмуркам у палітычнай барацьбе. Але зыходзячы з тых умоў, якія ў рэаліі існуюць у нашым грамадстве, справа нацыянальнага адраджэння яшчэ не хутка стане прэвалірнай для гэтага грамадства. У рэаліі існуюць рэчы, якія можна наазваць патрэбамі сённяшняга дня і яны мацнейшыя на гэты час, нават за самую моцную і выдатную мэту, якой без сумнення з'яўляецца нацыянальнае адраджэнне.

Мне здаецца, што памылкай адраджэнцаў, акрамя спалучэння палітычных і адраджэнчаскіх задач, з'яўляецца і тое, што ў агітацыі і прапагандзе беларушчыны, прысутнічае нейкі плач і бясконцая гарота. Добра ці дрэнна, але мы навучыліся казаць пра дыскрымінацыю, прыймаць нейкія заявы і рэзалюцыі, але мы не навучыліся рабіць свята! Пры тым патэнцыяле, які мае сёння беларуская дэмакратычная думка і беларускае адраджэнне, гэта свята беларушчыны можна наладзіць па ўсіх буйных гарадах, з беларускімі песнямі і з беларускімі танцамі, з продажам беларускай літаратуры і з выступам творчых калектываў і з лекцыямі пра беларускую мінуўшчыну. Хопіць канстатаваць, што "Гіне мова"! Гэта трохі не так і мова не можа згінуць пакуль ёсць яе жывыя носьбіты. І справа нацыянальнага адраджэння, як раз такі і ёсць у тым, каб гэтых носьбітаў з кожным днём станавілася ўсё болей і болей. Прывабіць да сябе людзей гаротай і зрабіць іх сваімі саюзнікамі, вельмі складана, калі не сказаць, што зусім немагчыма. Дакладна ведаю, што калі чалавек хоць адзін раз убачыць купалаўскую пастаноўку "Князя Вітаўта", то ў гэтага чалавека ўжо не будзе выклікаць адмоўных асацыяцый і беларуская дзяржаўнасць і бел-чырвона-белы сцяг. Таму пытанне трэба ставіць па другому:



" А ці навучыліся мы даносіць да людзей прыгажосць беларускай мовы? Ці навучыліся мы самі расказваць і закладваць у галавы сваіх суайчыннікаў тое, чым сапраўды можа ганарыцца беларускі народ?"

Тым хто гаруе, — могуць толькі паспачуваць, да тых хто святкуе, — могуць і будуць далучацца людзі! Не трэба выстаўляць свае "балячкі", трэба зрабіць так, каб абудзіць у сэрцы кожнага, ўспаміны пра лепшае, пра прыемнае, што кранае самыя патаемныя струны ў душы кожнага. Навучыцца шукаць гэтыя струны, на маю думку і ёсць задача для сапраўдных адраджэнцаў.

Спалучаць справу нацыянальнага адраджэння і справу палітычнай барацьбы нельга. Але тыя ж палітыкі, якія сёння "перажываюць" за Беларусь, вельмі мала робяць дзеля адраджэння гэтай Беларусі. Безумоўна, што газета "Наша слова" сёння амаль адзіны асяродак беларускага слова. Я добра разумею, што сённяшняя магчымасці гэтай газеты абмежаваны адсутнасцю добрай матэрыяльнай базы. Але ж каб кожны з тых, хто вельмі "перажывае" за беларушчыну, напісаў і бясплатна перадаў у газету хоць па аднаму цікаваму артыкулу, то безумоўна гэта была б канкрэтная дапамога. Але плакаць "кракадзілавымі слязамі" лягчэй і прывычней і гэта наша галоўная бяда.

Плача электарат, які ў дзесяцімільённай Беларусі не бачыць ні аднаго "дастойнага" чалавека на пасаду прэзідэнта. На гэта можна толькі запытаць, а ці добра вы шукалі людзі? Ці перавяліся на Белрусі сумленныя, разумныя, шчырыя людзі? Плачуць расчараваныя актывісты дэмакратыі, лянуючыся пакруціць галавой і зрабіць намаганне каб пашукаць нейкія новыя шляхі да шчырай душы свайго народа. Плача і сам народ, але яго плач схаваны ад вачэй тых, хто можа здзекавацца з гэтага плачу. Таму і будзем мы жыць нелюдзямі пакуль будзем плакаць.

Трэба шукаць ! Новыя метады, новыя формы, новыя варыянты, новых выканаўцаў і новыя шляхі. І калі мы будзем шукаць, то жыве і будзе жыць надзея на незалежную, вольную, дэмакратычную Беларусь. Жыве і будзе жыць беларуская мова і памяць аб мінуўшчыне, якая будзе выклікаць гонар, а не слёзы. Бо слёзы слепяць вочы, а з такімі вачыма вельмі складана ісці наперад.

*Іван Каравайчык,*
*старшыня Партыі Здаровага Сэнсу*



**Павел Сцяцко,**
*доктар філалагічных навук, прафесар, старшыня Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

## ВАЖКІ ЎНЁСАК У БЕЛАРУСКУЮ НАВУКОВУЮ ТЭРМІНАЛОГІЮ І НАЦЫЯНАЛЬНА-КУЛЬТУРНАЕ АДРАДЖЭННЕ

Нядаўна выйшаў з друку **"Анатамічны слоўнік"** *(расейска-беларуска-лацінскі, беларуска-лацінскі, лацінска-беларускі)* з грыфам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь (Менск: Дызайн ПРО.1998.-480с.). Яго падрыхтавалі навукоўцы-анатамы з Менскага медычнага інстытута, кандыдаты навук Станіслаў Ярашэвіч, Леў Байцоў, Дыяна Кавалёва і Пятро Лабко.

Слоўнік мае каля 7500 тэрмінаў у кожнай з трох частак. Бальшыню тэрміналагічных адзінак складаюць беларускія лексемы. Аўтары слоўніка ўлічылі досвед сваіх папярэднікаў, тэрмінатворчыя набыткі 20-х гадоў і маўленчую практыку адраджэнцкіх 90-х гадоў.

Тэкст слоўніка паказвае на грунтоўную дасведчанасць яго аўтараў у пытаннях тэорыі і практыкі беларускай навуковай тэрміналогіі і анатамічнай наменклатуры, у прынцыпах тэрмінатворчых і сучасных праблемах моўнага нармавання.

Прыемна бачыць на старонках слоўніка вернутыя да жыцця адмысловыя беларускія словы і словаўтваральныя адзінкі, якія падаваліся яшчэ першым акадэмічным слоўнікам пад рэдакцыяй знакамітых пісьменнікаў, акадэмікаў Якуба Коласа, Кандрата Крапівы і Пятра Глебкі (РБС.153), але пазней былі заменены на "усесаюзныя" (расейскамоўныя).

У беларускай мове перавагу маюць прыметнікі на ***-овы (-авы, -евы)***, на месцы якіх у 30-80-х гадах замацоўваліся ўтварэнні з суфіксам ***-н-***, супольныя з расейскаю мовай. Але штучнасць апошніх відавочная: яны куды менш празрыстыя сваёй структурай, значна аддаленыя ад утваральных словаў, нярэдка немілагучныя, тымчасам як лексемы з суфіксам ***-ов- (-ав-, -ев-)*** больш блізкія да ўтваральных словаў, лёгкаматываваныя і зразумелыя паводле сваёй семантыкі. Параўнайма: ***вачніцавы (ад вачніцы) і вачнічны, лапапткава-ключыцавы (ад лапатка і ключыцы) і лапатачна-ключычны, бялковы і бялочны, ячэйкавы і ячэечны*** ды інш. У слоўніку якраз і бачым гэтыя натуральныя формы беларускіх анатамічных тэрмінаў: ***вяршковы, перагародкавы, запясцевы, далоневы, міжрабровы, паясніцавы, печанёвы, лабірэнтавы, ядравы, жабравы, сківіцавы ...***

На месцы неўласцівых словаўтваральнай сістэме нацыянальнай беларускай мовы ўтварэнняў з суфіксам ***-чат-*** у слоўніку падаюцца натуральныя словы на ***-овы (-авы-,-евы)***, ***-істы*** ды інш.: ***перапонкавы (перапончаты), губкаваты (губчаты), крацісты (рашотчаты), варсінкавы (варсінчаты), грабянцовы (грабенчаты), галоўкавы (галоўчаты) ...***

Зусім абгрунтавана не падаюцца ў слоўніку тэрміны з празмернымі ("доўгімі") суфіксамі, якія зацямняюць словаўтваральную структуру і парушаюць гармонію гукаў беларускай мовы. На месцы суфіксаў ***-еальн-, -іальн-, -альн, -арн-*** бачым спрадвечнабеларускія фарманты ***-н-, -ов- (-ав-, -ев-)***, якія дазваляюць беспасрэдна дастасаваць вытворны прыметнік да ўтваральнага назоўніка і бачыць іх натуральную структуру і абумоўленае ёю значэнне: ***поласць перыкардавая (перыкард), плеўравы (плеўра), перадтрахейны (трахея), эпітэльны (эпітэль), дыяфрагмавы (дыяфрагма), пірамідавы і пірамідны (піраміда), аортавы (аорта)***, а не слабаматываваныя: ***менінгельная, перыкардыяльная, плеўральная, перадтрахеальная, эпітэліяльная, дыяфрагмальны, пірамідальны, аартальны ...***

Сістэмна-апраўданыя формы з суфіксам ***-ав- (-ев-, -ов-)*** на месцы зрусіфікаваных з фармантам ***-енн-*** таксама знайшлі сваё адлюстраванне на старонках анатамічнага слоўніка: ***падэшвавы, похвавы, стрэмевы, семевы, цемевы ...***

Добрыя тэрмінаэменты-адпаведнікі знайшлі аўтары слоўніка да расейскіх дзеепрыметнікавых структураў, функцыю якіх бяруць на сябе назоўнікі на ***-ніца*** ( з дзеяслоўнаю асновай): ***цягліца-апускальніца (опускающая мышца), цягліца-адводніца вялікага пальца кісці (мышца, отводящая большой палец кисти), цягліца-падвешвальніца дванаццаціпалай кішкі (мышца, подвешивающая двенадцатиперстную кишку), цягліца-падымальніца верхняга павека (мышца, поднимающая верхнее веко), цягліца-супрацьстаўніца вялікага пальца кісці (мышца, противопоставляющая большой палец кисти), цягліца брывозморшчвальная (мышца, сморщивающая бровь).*** Апрач таго, функцыю расейскіх дзеепрыметнікаў выконваюць у тэрміналогіі беларускія аддзеяслоўныя прыметнікі: ***накіроўная звязка (направляющая связка), неразвіты зачатак (неразвившийся зачаток), блукальны нерв (блуждающий нерв), зыходны (нисходящий), адводны (отводящий), пазванок выступальны (позвонок выступающий), прыносны (приносящий), прабадальны (прободающий) , пратока семявыносная (проток семявыносящий), пратока злучальная (проток соединяющий), тракт праводны (путь проводящий).***

Як вядома, рэформа 1933 года накінула беларускай мове расейскія фіналі ***-ій, -ый*** пры афармленні іншамоўных хімічных, фізічных, біялагічных ды іншых тэрмінаў: ***алюміній, барый, крэмній..*** Аднак гэтых фіналяў не маюць іншыя славянскія і неславянскія заходнееўрапейскія мовы. Няма іх і ў мове-першакрыніцы. Таму зусім натуральна ў анатамічным слоўніку (як і ў раней выдадзеных фізічным і хімічным даведніках) лацінскія лексемы ў беларускай часцы таксама іх не маюць: ***гангль (рас. ганглий), эндаметр (эндометрий), эндаміз (эндомизий), энданеўр (эндоневрий), эндатэль (эндотелий), эпінеўр (эпиневрий), эпітэль (эпителий), эпаніх (эпонихий)...***

Бачым у слоўніку і шмат сваямоўных беларускіх словаў на месцы расейскамоўных, якія — дзеля найхутчэйшага набліжэння нашай мовы да ўсесаюзнага стандарту — запаланілі акадэмічныя слоўнікі. Вось толькі некаторыя прыклады: ***дванаццаціпалая кішка (на месцы ўсесаюзнага дванаццаціперсная), седніца (сядалішча), сцягно (бядро), лытка (галёнка), пазасэрцавы (пазасардэчны), ваколсэрцавы (вакол-сардэчны), ядро падвойнае (двайное), паднябенны (нёбавы), крумянковы (ягадзічны), груд сядальны (бугор сядалішчны), галіна судзінная (ветка сасудзістая), валокны ядравыя (валокны ядзерныя), лейка крацістая (лейка рашотчатая), стрымнік (дзяржацель), зуб сталы (зуб пастаянны), абсяг (вобласць), канцавіны (канечнасці), сеткавіца (сятчатка), судзіны (сасуды), цягліца (мышца), крумянок (ягадзіца)*** ды шмат іншых.

Як бачым, навукоўцы — менчукі стварылі грунтоўны тэрміналагічны даведнік па анатоміі. Гэта важкі ўнёсак у распрацоўку і спарадкаванне адной з важных галінаў навукі і практыкі, а таксама у нашае нацыянальна-культурнае адраджэнне.

Антон Навіна

З фондаў музея Максіма Багдановіча ў Гародні

# Максім Багдановіч

*Антон Луцкевіч (літаратурны псеўданім Антон Навіна) — першы крытык Максіма Багдановіча. Ён змясціў у газеце "Наша Ніва" рэцэнзію на зборнік вершаў Максіма Багдановіча "Вянок" 1913 г. і ўступны артыкул да другога выдання гэтай адзінай пажыццёвай кнігі паэта, якое адбылося ў 1927 годзе, ужо да 10-годдзя смерці паэта.*

*Было і яшчэ некалькі нарысаў, выступленняў Антона Навіны у розных перыядычных выданнях, пра паэзію аднаго з лепшых і найбольш тонкіх майстроў сусветнай паэзіі Максіма Багдановіча, у выніку чаго і прышчапілася формула "паэта чыстай красы" да вялікага майстра.*

*Аўтар гэтага артыкула Антон ЛУЦКЕВІЧ нарадзіўся ў 1884 годзе ў сям'і паўстанца 1863 года Яна Луцкевіча вучыўся ва ўніверсітэтах Масквы і Дэрпта. Адзін з пачынальнікаў сацыялістычнага руху на Беларусі, сябар ЦК Сацыялістычнай Грамады і рэдактар першых газет "Наша Доля" і "Наша Ніва", у якіх публікаваўся М.Багдановіч.*

*У 1918-1919 гадах А. Луцкевіч старшыня Ураду Беларускай Рэспублікі, у 20-х і 30-х гадах выкладчык гімназіі, дырэктар Беларускага банка і Беларускага музея ў Вільні, кансультант Сялянска-Работніцкай Грамады, старшыня Цэнтрасаюза і Беларускага навуковага таварыства. У верасні 1939 года на мітынгу ў Вільні вітаў прыход Чырвонай Арміі, у тую ж восень пад час масавых рэпрэсіяў супраць міжваеннай віленскай інтэлігенцыі арыштаваны НКВД і вывезены ў Менск, дзе памёр у турме на пачатку 1941 года.*

*Працы А.Луцкевіча пра паэзію аднаго з лепшых паэтаў XX стагоддзя і найбольш тонкіх майстроў увогуле сусветнай паэзіі М.Багдановіча і яго формула "геній чыстай красы" дагэтуль ёсць лепшае з усяго сказанага пра Паэта.*

*Гэты гістарычны дакумент падрыхтаваны да друку на гадавіну смерці М.Багдановіча 25 мая 1917 года ў адпаведнасцю з правіламі літаратурнай мовы, якія існавалі ў тым часе, калі ён быў напісаны і апублікаваны ўпершыню.*

***Музей Максіма Багдановіча ў Гародні.***

## МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

12/25 мая 1917 году памёр у Ялце ад сухотаў вялікі пясьняр беларускі Максім Багдановіч.

Кароткі быў шлях жыцьця Поэта, ды ліхая доля судзіла Яму і жыць і памерці — на чужыне! Хоць і радзіўся на зямлі Беларускай — у Менску (у 1892 годзе), але шуканьне куска хлеба прымусіла бацьку Яго, Адама Багдановіча, беларускага энтографа і народавольца, перабрацца ў Ніжні Ноўгарад, а пасьля — у Яраслаўль. Там — у гэтых вялікіх, ды чыжых Яму местах расейскіх, сярод чужое атмасферы, жыў, гадаваўся і вучыўся Максім. Стуль толькі ў 1911 годзе, — ужо як ведамы і прызнаны Паэт, — першы раз прыехаў у Бацькаўшчыну, адведаў старую Вільню, пабываў на вёсцы — у Вялейшчыне (каля Краснага), сярод беларускіх ніў і гаёчкаў. Толькі пасьля сканчэньня Яраслаўскага ліцэю ў 1916 годзе Максім Багдановіч едзе ўрэшце на сталую працу ў Менск. Тут — ня гледзячы на вайну — кіпіць беларускае жыцьцё. Яно захоплівае Поэта, які ўвесь аддаецца беларускай грамадзкай працы, пакуль страшная хвароба ня валіць Яго з ног. І толькі тады, як сіл да працы не хапіла, Максім Багдановіч згадзіўся спочніць просьбы сяброў і паехаць лячыцца ў Крым.

Ды было позна: нядоўга тамака "палячыўся" ...

За своё кароткае жыцьцё Максім Багдановіч здалеў, аднак, выбіцца на адно з першых месц у беларускім адраджэнскім руху: як поэт, як пісьменнік, Ён зьвярнуў на сябе ўвагу ўсіх сьвядомых беларусаў ужо першымі сваімі вершыкамі ў "Нашай Ніве", а пасьля — зборнічкам выбраных самім аўтарам твораў пад назовам "ВЯНОК", выданым у Вільні ў 1913 годзе. З таго часу вершы, апавяданьні і крытычныя стацьці Максіма Багдановіча зьяўляліся ў розных беларускіх журналах і газетах, пападалі і ў украінскую ды расейскую прэсу і захоплівалі ўсіх сваім асаблівым харавством і глыбокімі думкамі.

Паміраў Поэт адзін — сярод чыжых. Але ня чуў сябе самотным — там над морам: Ён меў заўсёдную ўсладу ў створанай ім-жа красе. І калі памёр, ля ложка Ягонага была знойдзена кніжачка "Вянка", а на ёй слабеючай ужо рукой Поэта было напісана —

***У белым доме,***
***дзе я ўміраю,***
***Над сінім морам,***
***ля самай бухты,***
***Я несамотны:***
***я кнігу маю***
***З друкарні***
***пана Марціна Кухты ...***

У друкарні М.Кухты ў Вільні быў адбіты "Вянок".

x x x

Дзесяць гадоў мінула з таго дня, калі сумная вестка аб сьмерці Максіма Багдановіча разыйшлася па ўсёй Беларусі. Многа перажыў, перацярпеў наш народ за гэты час бур-навальніцаў, што зьнішчалі нашу Бацькаўшчыну. Многа яркага і добрага, а яшчэ больш благога — бачылі мы на роднай Зямлі.



МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

**Кніга вершаў Максіма Багдановіча, выдадзеная музеем Максіма Багдановіча ў Гародні ў 1996 годзе**

Ад мамэнтаў вялікай радасьці пры спаўненьні нашых найсьвяцейшых ідэалаў мы ўжо гэтулькі разоў так рэзка, так неспадзявана пераходзілі да поўнае утраты веры ў самы ідэалы. Білі нас па нервах і свае, і чужыя, — білі балюча, безміласэрна ...

Пасьля бур, пасьля вострых перажываньняў душа шукае супакою, адпачынку. Думка кіруецца ў тыя сфэры, дзе пануе чыстая краса і гармонія. І цяпер больш, чым калі, мы адчуваем патрэбу абмыць душу ў чыстай крыніцы поэзіі, мастацтва. І цяпер лепш, чым калі, мы можам адчуць і зразумець Багдановіча і ацаніць вялізарную ўтрату ў асобе Яго.

x x x

Хараство поэзіі Багдановіча ня ў сіле, ня ў тым магутным творчым размаху, які выяўляецца, напрыклад, у Купалы, ня ў красачнасьці, сакавітасьці абразоў прыроды, чым так чаруе нас Колас. Багдановіч — поэт паўтонаў. Свае фарбы ён бярэ з паблеклых старадаўніх тканін, з малюнкаў сьвятых кніг, пісаных многа сот лет таму назад на пэргаменьце, з засохшых красак родных палёў. Яго грудзі ўдыхаюць "воску з ладанам прыемны пах", якім пранікнуты страніцы збутвелых ад часу фоліянтаў. Прад Яго вачыма праносяцца празрыстыя, як косы месяцы, разьвеўныя і маўклівыя русалкі, Яму грае ў бары лясун, — і вадзянік, пакрыты адвечным ілам, вядзе з ім размову. Уваскрасаюць "слуцкія ткачыхі" і, захопленыя хараством прыроды, у пэрсідзкія ўзоры паясоў нясьведама ўплятаюць "цьвяток радзімы васілька". А ў бруднай, упэцканай васьмігадовай дзяўчынцы-няньцы ён выкрывае цудоўны бліск пачуцьця мацярынства — той самы бліск, каторы вялікі Рафаэль стараўся адмаляваць на ліках сваіх Мадоннаў. Паўтоны ў фарбах, у гуках, у перажываньнях — вось асноўная рыса творчасці Максіма Багдановіча.

У гэтым Ён ня мае падобных сабе. Ён стаіць здалёк ад усіх другіх нашых песьняроў. Ён наскрозь індывідуальны, новы, беспадобны. Яго ролю ў беларускай паэзіі можна прыраўнаваць да таго, хто ўвёў у музыку паўтоны, хто на іх збудаваў новую гармонію.

У аснову свае гармоніі Багдановіч паклаў лад мінорны: Ён іграе на бэмолях. І гэта зусім зразумела: гэта выплывае з яго Індывідуальнасьці. Ад маладых гадоў хворы на сухоты, ведаючы, што сьмерць бязупынна стаіць у Яго за плячыма, Багдановіч ня шукае ў жыцьці сьвету, ні радасьці, ні асабістага шчасьця, а, наадварот, як быццам зачыняецца ў самым сабе, услухваецца ў музыку свае нязвычайна інтэлігентнае, багатае, чуткае душы і пераліваае гэту музыку ў абразы і словы. Згэтуль выплывае і агульны тон поэзіі Багдановіча, які мамэнтамі напамінае сум і тугу бяссьмяротных твораў Шопэна.

x x x

Мала можна знайсці ў нашай літаратуры прыкладаў такой поўнай, як у Багдановіча, гармоніі паміж думкай ці пачуцьцём, выяўленым у вершы, і формай яго — будовай і падборам гукаў. Сустракаем гэткую гармонію толькі ў найвялікшых нашых песьняроў, дый то не заўсёды. У Багдановіча — гэта агульнае правіла. Узгадаваны на найлепшых узорах сусьветнай літэратуры, захоплены нязвычайнай музыкальнасьцю вершу Вэрлена, творы якога з піэтызмам перакладаў на беларускую мову, Багдановіч датуль працаваў над кожным сваім вершам, датуль шліфаваў яго, пакуль не дахадзіў да таго, чаго жадаў. А гэты крытык, строгі для другіх, быў асабліва строгім судзьдзёй для сябе самога і вымагаў ад сябе вельмі многа! І затым то вершы Багдановіча — гэта ідэальныя ўзоры для маладых беларускіх паэтаў. Багдановіч — вялікі вучыцель: Ён паказаў, як, маючы ў душы іскру божую, можна выказаць роднай мовай усё, што перажывае, што адчувае ня толькі "народ просты", але і інтэлігент эўропэйскага тыпу. Багдановіч прысвоіў сабе ўсе формы вершаў, вядомыя ў літэратуры найбольш культурных народаў, даказаўшы гэтым гібкасьць і багацьце беларускае мовы. Бачым у Яго клясычныя пэнтамэтры, зграбныя трыялеты, рондо, наважную октаву, — а Яго сонэты з боку тэхнікі вышэй усялякай крытыкі. Ён — мастак формы: Ён зусім апанаваў тэхніку вершаў, надчыніў сабе матар'ял і карыстаўся гэтым зусім сьвядома.

x x x

Праўдзівая краса прамаўляе да душы і сэрца кожнага, хто здолен яе адчуць, незалежна ад таго, які народ творыць яе. Нацыянальнае стаецца агульналюдзкім праз укрытую ў ім чыстую красу. Вось чаму творы Багдановіча, хаця і збудаваныя з нацыянальна-беларускіх элемэнтаў, маюць агульналюдзкую цану: як пясьняр чыстае красы, Багдановіч выбірае для свае творчасьці беларускія элемэнты не затым, што яны — родныя Яму, а затым, што ў іх ёсьць сапраўднае хараство. І ў гэтым вялікая заслуга Яго: бо такім чынам найлепшыя творы беларускай нацыянальнай душы ўзьнімаюцца на тую ступень, на якой стаяць такія ж творы іншых народаў, што здабылі ўжо даўно сусьветнае прызнаньне. Выкрываючы вечную, няўміручую красу ў нашым родным, беларускім, Багдановіч уводзіць нас у сям'ю культурных народаў з большай пэўнасьцю, чымся тыя, хто піша вялікія трактаты аб нашым праве на гэта.

Пройдуць гады, зьменяцца варункі нашага жыцьця, і многа спаміж твораў тых, хто сягоньня жывым мастацкім словам змагаецца за права нашага народу на жыцьцё і волю, хто апісвае нуду і гора беларускай вёскі, хто кляйміць крыўдзіцеляў нашых за зьдзек і гвалты над Беларусамі, — многа спаміж іх будуць забыты, захаваўшы толькі гістарычнае значэньне. Але ўся творчасьць Багдановіча не зтраціць свае цаны ніколі, бо краса ніколі ня ўмірае, бо Пясьняр Чыстае Красы ніколі ня можа быць забыты і будзе так сама прамаўляць да душы і сэрца нашых унукаў, як прамаўляе цяпер да нас.

*Май 1927*
*Антон Навіна.*

ПЕРШАЯ ЗОРКА

***Максіму Багдановічу***

Сонца залезла
за чорныя хмары,
неба запэцкаўшы
ў колер чырвоны,
нібы пускаючы нейкія чары
ці атрымаўшы бязлітасна кару,
зорка ўзыйшла
над маўклівым сутоннем...

Першая зорка
срэбнай манеткай
бляскам халодным
у сінім бяздонні
шчасцем калісці свяціла Паэту,
у цёплых абдымках
ласкавага лета
вецер гайдаў яе лёгкія промні.

Першая зорка
ліхтарыкам цмяным
грэе туман
у падножжа змяркання,
гоячы ў сэрцы глыбокія раны,
можа ў кагосьці,
як Ён закаханы,
я пра сябе загадаю жаданне.

***1996г.***
***Анатоль Брусевіч.***

БАГДАНОВІЧУ

Шукаючы след у пыле
Ты прайшоў
гэты свет наскрозь
на пальцах Тваіх
засыналі гадзіны,
а ў вачох —
святло апошняе свечкі
Ты бачыў людзей
што былі падобныя
на манекены
на страшныя малюнкі
з дзіцячых сноў
а на вуснах жанчын
Ты шукаў усмешку Маці
слёзы каторай сталі лісцем
старыя гарады сцішвалі
Твае крокі
цяжкімі манускрыптамі
і кожны з іх спяваў адыходную
ды толькі ў час,
калі вочы спазналі мора
Ты зразумеў:
ад калыскі
да свету — паўкрока,
ад свету
да калыскі — жыццё.

***верасень 1991***
***Эдзік Мазько***

ЧОРНАЯ ІМША

***Максіму Багдановічу.***

Камень ахвярны сілай напоіць
чэзлую душу дня
тлумнага свету
згубяць цяпло Твае рукі
і ўсё стане няісным
бы пыльны склеп
пасярод зімы
бы замёрзшыя гадзіны
і толькі памяць,
асуджаная на смерць,
застанецца ў сэрцы
пасля чорнай імшы.

***1989***
***Эдзік Мазько***

МАКСІМУ БАГДАНОВІЧУ

Здабылі такую сілу,
маладосць нашу і сталасць
узнімала і насіла
і няволю здрузгатала.

Паліліся творча, роўна
нашы дні, але ўсё вышай
над краінаю чароўнай,
дзе "Вянок"
на памяць вышыў...

Спі спакойна, мілы дружа,
Беларусь — наша матуля
у руках,
што з праўдай дружаць
і да сэрца моцна туляць

***20.01.1991***
***Анатоль Іверс.***

# ПРАЙШЛО ВОСЕМДЗЕСЯТ ПЯЦЬ ГАДОЎ

У 1913 годзе ў Вільні быў выдадзены "Вянок" Максіма Багдановіча, у той час нікому не вядомага студэнта-юрыста з Яраслаўля. Кніга распрадавалася яшчэ горш, чым другія беларускія кнігі таго часу, і не было б сэнсу Ан.Луцкевічу перавыдаваць "Вянок" у той жа Вільні ў 1927 годзе, каб частка накладу не прапала ў вайну 1914-20 гадоў, а рэшткі сканфіскавала польская паліцыя разам з камуністычнай літаратурай у 1922 годзе, калі Сярэдняя Літва па рэферэндуме зрабілася Віленскім ваяводствам і ўсялякія цацканні Ю. Пілсудскага з беларусамі ў рамках яго федэралізму (цяпер тое ж рэкламуецца пад назвай Балтыйска-Чарнаморскага Саюза) аказаліся непатрэбнымі. Але мала лепш разыходзілася кніга і пасля 1927 года — і на савецкім, і на польскім баку. У школьныя падручнікі Багдановіч вяртаецца недзе ў 50-я гады з адпымі "Слуцкімі ткачыхамі" і пейзажнымі замалёўкамі, прыгоднымі для малодшых класаў. Што праўда, ён нейкім чынам трапляе да часу манументалізацыі ў Святую Тройцу разам з Купалам і Коласам — хіба з прычыны своечасовай смерці, бо да бальшавіцкай рэвалюцыі ў Расеі. Гэта пазбаўляе яго ад магчымасці трапіць у савецкі рэестр антысаветчыкаў і нацыяналістаў, нават ад цікавасці цэнзуры: скажам, у кніжцы з серыі "Бібліятэка беларускай паэзіі", што выйшла ў 1977 годзе, спакойна змешчаны "нацыяналістычны", "антысавецкі", "фашысцкі", і "БНФаўскі" па тэрміналогіі сучаснай верш "Пагоня" ... Зрэшты, чаму не, калі ў школьным падручніку Л.Абэцэдарскага рэпрадукаваўся тытульны аркуш Статута 1588 года з тым жа гербам Пагоня. У той шчаслівы час і беларускія патрыёты, і савецкія цэнзары былі роўнымі анальфабэтамі — у 80-я гады пачынаецца нават нейкі па-беларуску сонны інтарэс да Багдановіча з боку шматлікіх аспірантаў і дактарантаў. І толькі калі трашчыць СССР, а з боку ЮНЕСКО і таму падобных установаў даходзіць калейка і да адзначэння нейкага беларускага ўкладу ў Вавілон сусветнай культуры, раптам высвятляецца, што на сусветным узроўні працавалі Гусоўскі, Скарына і Багдановіч. Астатнія — гэта фальклор, цікавы ў лепшым выпадку сентыментальным палякам з настальгіяй па ціхім беларускім хутары і сонным пейзажы. Астатніх у свеце проста не разумеюць, бо яны пішуць пра нейкія сярэднявечныя беды і клопаты, якія ў Еўропе і тым больш за Вялікай Салёнай Вадою даўно сталіся тэмай для пастаралек, рамантызму і маралізатарства, але не для паважанай літаратуры. Што зробіш, калі абшар на правым беразе Буга так і праенаў у некранутай тэхналогіі побыту і псіхалогіі трывання і чакання прыблізна ад Гедыміна і да Шушкевіча ...

Між тым, з пункту гледжання што цяперашняй улады, што цяперашняй апазіцыі Багдановіч ёсць найбольш небяспечны літаратар. Небяспека яго не ў тым, што ён супраць саветаў і калхозаў альбо што яму роўна ўсё роўна, пісаць па-беларуску, па-украінску ці па- расейску (а чытаў ён яшчэ на шасці мовах!). Небяспека ў тым, што ён другі. У яго другі спосаб мыслення — ён калі і спачувае "простаму народу", то гэта выключна з прычынаў гуманізму літаратурнай еўрапейскай традыцыі, а не з тых прычынаў, што спачатку людзей трэба накарміць, а потым ужо марнаваць грошы на культуру ( наша ўлада), альбо што народ прыгнечаны і пакутуе, а таму спачатку трэба яго вызваліць і давесці да светлага жыцця ў "прыўкраснай будучыні", а ўжо потым заўважыць свой уласны прымітывізм і фальклор часоў мезазойскай эры ды кінуцца даганяць укаханую Еўропу (наша апазіцыя). Да слова, пры любым рэжыме апазіцыя гэта рана ці позна будучая ўлада — ну, напрыклад, гадоў чатырыста хрысціянаў кармілі звярам на арэнах цыркаў, а потым гадоў тысячу хрысціяне вымардавалі мільёны людзей і вынішчылі сотні пляменаў, а нават у "цывілізаванай Еўропе" сотнямі палілі дысыдэнтаў і тысячамі грамілі жыдоў. Потым лібералы, сацыялісты і камуністы давялі ўжо хрысціянства да фізічнага вынішчэння і маральнага прымітывізму... Багдановіч не на баку ні апазіцыі, ні ўлады. Чалавек такога ўзроўню міма ўласнай волі, бо на тое воля Божая, глядзіць і бачыць далей свайго часу. Чаму? З той прычыны, што літаратар ці навуковец — калі ён не халтуршчык і дурань! — воленс-ноленс не такі, як усе. Ну, бо колькі можна пісаць наконт "прыгажосці мовы" пасля Міцкевіча з Багушэвічам ці чарговы раз вынаходзіць эканамічны вадагрэйны кацёл, калі гэта даўно зрабілі Дызэль і Пфляйдэрэр... Літаратар, аднак, адрозніваецца ад навукоўца тым, што кацёл рана ці позна хто-небудзь вынайдзе і запусціць у вытворчасць, а вось напісаць "свяча бліскучая зіяе ... " можна толькі адзін раз. Літаратар можа быць цікавы выключна сваёй асобай, а таму ён ніяк не можа быць "такі, як усе" ... Парадокс у тым, што гэтае патрабаванне дзейнічае толькі ў навуцы, мастацтве і літаратуры. Нават такія "цёмныя і нікому незразумелыя рэчы, як палітыка" (У.-Чэрчыль) альбо медыцына, што мае справы з канкрэтнымі людзьмі, — а няма двух аднолькавых людзей з такімі ж адбіткамі пальцаў, — калі паглядзець уважліва і падумаць спакойна, нічым не адрозніваюцца ад рутыннага занятку пры прадукцыі малака, бульбы, ровараў і тэлевізараў — і хірург, і прэзідэнт кожны дзень робяць адно і тое ж. Адзін рэжа і шые, а другі шые, дзе рвецца, але рэжа ўсе, што шкодзіць шыць! І гэта ў любы час і пры любым рэжыме. Ясная справа, на медыцыну і палітыку трэба мець талент — і то яшчэ які! Так паміж намі, то бяздарных лекараў і міністраў не бывае — пры ўсіх іх памылках яны на тры галавы інтэлектуальна вышэй "сярэдняга паядача хлеба" ... Але тэхналогія мыслення тая ж самая. Нават калі здараюцца выключэнні, як той самы Чэрчыль, выдатны палітык і аднача́сова лаўрэат Нобеля па літаратуры, то лёгка заўважыць, што той самы Чэрчыль бліскучы мемуарыст і аналітык, а гэта не так літаратура, як тыя ж практычныя палітыка і гісторыя... Прадукцыя літаратара — гэта міф ці навізна слова. Тэхнічна ў польскай літаратуры ёсць куды больш лепшыя аўтары, чым Міцкевіч (напрыклад, Лесьмян), а як празаік Сянкевіч балансуе над прорвай графаманства, але абодва бліскучыя містыфікатары — не было б іх, не было б Польшчы! — але ўжо ў суседняй Германіі ніхто не ведае, хто такі Міцкевіч, а з Сянкевіча ведаюць ... адзін "Quo vadis"! Ну, бо гэта ж байкі пра Стары Рым, гэта ведаюць усе! А Багдановіч чалавек менавіта навізны слова — у рэдкага аўтара славянскіх літаратур (іншыя магу чытаць толькі ў перакладах, таму не маю права судзіць) так разнастайныя тэхнічна і жанрава работы, столькі гэтак званых "скрыдлатых фразаў" і неверагодна нізкі працэнт халтуры (так-так, і геніі часам гоняць абы што — і то яшчэ як!). Калі ж успомніць, у які час ён жыў, на які грунт прыйшоў, то застаецца толькі паверыць у існаванне Бога, бо вытлумачыць само з'яўленне Багдановіча ў такой літаратуры, у такім месцы і ў такім часе можна толькі ірацыянальна. Ну, бо пры чым тут сямейныя традыцыі, прывоз газетаў Вольгай Сёмавай, сум па Беларусі як сум па маці і наадварот?! Гэта ж пазнейшыя выдумкі літарацкага і патрыятычнага заклапочанага тлуму!

Прайшло сто сем гадоў ад нараджэння Багдановіча ... Атрымаўшы неверагодным збегам абставінаў дзяржаўны суверэнітэт, сляпы крот-народ спіць і бачыць, каму б здаць яго за пляшку выпіўкі і кавалак закускі! Ніякія патрыёты сягоння не ў стане той суверэнітэт бараніць — адзіны яго абаронец гэта ... чыноўнік. Ад клерка ў мястэчку і да прэзідэнта. Чыноўнік, прынамней, знаецца на цэнах — а таму нікому не прадасць Беларусі за так, даваць жа паважную сумму за гэткую "чорную дзіру" ў цэнтры Еўропы — "куда уходит все!" — за такога "ката ў мяшку", які можа выкінуць што хочаш, у бліжэйшым часе нашага бесталковага жыцця ніхто не збіраецца. Няма дурных. Нават у Расеі, якой так баяцца адны і на якую так моляцца другія — расейская палітыка і так атрымала ад Беларусі максімум магчымага, то па халеру выкідаць грошы на яе анэксію?!

У адным з артыкулаў 1916 года Багдановіч смяяўся над страхамі псіхаванага на манер маскоўскіх цяперашніх крыкуноў тагачаснага чорнасоценца, бо той быў упэўнены, што заўсёды і кожны беларус сніў і бачыў "суверэнітэт Беларусі" і нават (!) "стоял за него" ... "Ды ніхто не стаяў!" — як пасміхнуўся і паціснух плячыма Багдановіч, Куды ж суверэнітэт мужыцкаму народу, у якога "эліта" мысліць тым самым спосабам, што і "простыя людзі". Максім Адамавіч хіба так прыкідваў, што спачатку мае быць Граматыка, потым на яе грунце Эліта, а ўжо потым яе намаганнямі Дзяржава. І калі не выць пра адзін сённяшні дзень, а глянуць з гістарычнага пункту, то менавіта так і было. Толькі што выйшла не так, як ува ўсіх суседзяў, а так, як у нас ... Таму і сцвярджаю я, што ў псіхалогіі беларуса нічога істотнага не змянілася з часоў яшчэ дахрысціянскага Полацка. "Пад кім мы цяпер будзем?" альбо "Выбары старшыні" ...

Але ў чым тут "памылка" ці "правіна" Багдановіча і яго пакалення?

*Алесь Чобат.*

## Аповесць пра словы

### Чын

Гэтае векавечнае беларускае слова цяжка адшукаць у старажытных слоўніках. Большасць са старажытных моваў (грэцкая, лацінь) проста не маюць гука ***"Ч"***. У санскрыце гук ***"Ч"*** ёсць. Там, як і ў беларускай мове, існуе пара звонкі ***"ДЖ"*** і глухі ***"Ч"***. Але нічога падобнага на слова ***чын*** там не праглядваецца.

Тым часам слова ***чын*** дало такое гняздо словаў, якога не дало здаецца ні адно слова. Але, перш-наперш, што гэтае слова абазначае? Тут мы парушым логіку разважанняў, назавём яго значэнне і паспрабуем даказаць, што гэта менавіта так. ***Чын*** — гэта ***дзеянне, справа.*** І, менавіта, шматграннасці дзеяння і справы, як канцэнтрацыі дзеяння, мы абавязаны багаццю гнязда словаў на ***-чын-***.

***Слуцкі збройны чын*** — Слуцкае збройнае дзеянне. У**чын**ак — тое, што зроблена, вынік **чын**у. Па**чын**, за**чын** — пачатак дзеяння, заклік да пачатку дзеяння. Па**чын**альнік — той хто пачынае дзейнасць. Ад**чын**іць і за**чын**іць — правесці дзеянні з дзвярамі, акном, брамай і г.д. Адпа**чын**ак — аднаўленне сілаў пасля **чын**у. Пры**чын**а — перадумова **чын**у. Вы**чын** — выключны з агульнага шэрагу, выбітны ***чын***, подзвіг. Рас**чын**іць — закалаціць, скажам, брагу пад самагонку. Рас**чын**іць хлеб. Рош**чын**а — раствор. Невялікі пласт натуральнай старажытнай беларускай лексікі, калі корань ***-чын-*** утварае мноства самых розных словаў, але ўсе гэтыя словы звязаны з нейкім дзеяннем. Пазнейшыя эпохі скарыстоўваюць корань ***-чын-*** для ўтварэння новых сучасных словаў. **Чын**оўнік — чалавек якому дадзены правы і абавязкі для пэўнага **чын**у, дзеяння. ***Чын*** у значэнні званне, пасада — узровень правоў і абавязкаў на нейкае дзеянне, чалавек, які мае такія правы і абавязкі.

Расейцам так спадабаўся наш ***чын***, што яны не толькі награблі нашых словаў з гэтым коранем, але і сваіх дадалі: под**чин**ение, под**чин**ённый, под**чин**ить, **чин**одрал. Гэтых словаў яны наўтваралі ўжо ад слова ***чын*** у значэнні начальнік ці чалавек, які займае пэўную пасаду. Далей расейцы перабльгталі сапраўднае значэнне слова ***чыніць - дзейнічаць, рабіць*** і прымянілі яго ў значэнні ***рамантаваць (чинить)***. Далей маем ***починка, перочинный, начинка***. ***Начинка*** крыху выбіваецца з гэтага шэрагу, але ўсяроўна ў аснове тут ***-чын-***.

Вяртаемся да беларускай мовы. **Чын**нік — дзейны фактар. Да**чын**енне — стасункі, суадносіны пры дзеянні. У**чын**іць — зрабіць, нарабіць.

З коранем ***-чын-*** утвораны назоўнікі, дзеясловы, прыметнікі (ад**чын**ены, за**чын**ены, **чын**ны), дзеепрыслоўі (па**чын**аючы працу, ён ад**чын**яў вокны). У расейскай мове ёсць і дзеепрыметнікі (на**чин**ающий поэт). Ёсць і прыслоўі — (***чын*** — **чын**аром або ***чын-чын***ам).

Калі расейскае ***таким образом*** слаба паддаецца лагічнаму тлумачэнню, то яго беларускі адпаведнік ***такім чынам*** абазначае даслоўна тое, што атрымалася ў выніку нейкага ***чыну***.

Зла**чын**ства — злы чын, злое, кепскае дзеянне. Зла**чын**ец — той, хто зло **чын**іць. Зла**чын**ны — кепскі, злы, прызнак злога ў дзеянні.

Дабра**чын**ны — ***чын*** накіраваны на дабро.

Дабра**чын**насць — дзейнасць накіраваная на дабро.

Благо**чин**ный у праваслаўнай царкве іерархічная ступень. Па-беларуску гэта павінна гучаць, як дабра**чын**ны, бо слова блага**чын**ны скажае сэнс пасады. ***Блого*** па-расейску гэта ***дабро***. ***Блага*** па-беларуску гэта ***кепска*** і калі казаць ***благачынны*** то народ разумее гэта, як кепска**чын**ны.

Такім чынам, мы паказалі дастаткова поўны спектр ужывання гнязда словаў на ***-чын-*** і адзначылі, што не можам знайсці гэтага слова ў старажытных мовах. Разам з тым слова ***чын*** аднаскладовае і таму адназначна надзвычай старажытнае. Акрамя старажытных моваў гэтае слова не праглядваецца ні ў германскіх, ні ў балцкіх мовах. І толькі ў польскай мове мы маем такое ж магутнае гяздо словаў з коранем на ***-чын-***. Балгарская ж мова фіксуе толькі слова ***чыноўнік.*** Няма нічога падобнага ні ў цюркскіх мовах, ні ў угра- фінскіх. Як заўсёды, не даследаванай застаецца толькі кельтская група.

Не будзем зараз перацягваць канат з палякамі, чыё слова ***чын***. Зазначым, што яшчэ тысячу гадоў назад беларуская, польская і ўкраінскія мовы амаль не адрозніваліся паміж сабой. Пазней дзве апошнія мяняліся, беларуская ж захоўвалася ў першапачатковым стане. Таму можна лічыць гэтае слова самабытным славянскім, але трэба лічыць перад усім беларускім.

*Станіслаў Суднік.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by



***Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гарадзенскага аблвыканкама.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 7. 12. 98 г.
Наклад 3000 асобнікаў. Замова № 2884.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 12 000 руб., 3 мес.- 36 000 руб.